Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

5 (565) 3 лютага 2011 года

Кошт свабодны.



Рэклама ў газеце «ВГ», тэл.: 8(029) 813-99-99

Верхнядзвінскі раён

# Гінуць людцы без вайны

■ Станіслаў Раманчук

**У нядаўнім мінулым савецкія людзі пастаянна сутыкаліся з таварным дэфіцытам, жылі па прынцыпу не купіць, а нешта "дастаць" па знаёмству.**

Праўда, жыхароў Пастаўскага раёна выручала суседства з Літвой, і за каўбасой, кавай і нават зялёным гарошкам яны ездзілі ў Вільнюс. Цяпер паліцы магазінаў запоўненыя, але у студзені прыйшлося закрыць гандлёвыя кропкі ў вёсках Палхуны і Янчукі, бо там няма каму працаваць. Хоць мясцовае райпа лепшае на Віцебшчыне і толькі ў сельскай мясцовасці мае 53 свае магазіны і 10 аўтамагазінаў, але тут 38 прадаўцоў звольніліся з працы перад навагоднімі святамі. Нават у райцэнтры ўзнік недахоп 20 гандлёвых работнікаў. Апошнім часам патрабаванні да росту гандлёвага тавараабароту толькі растуць, як і розныя праверкі шматлікіх кантралюючых арганізацый. За пэўныя ўпушчэнні цяпер самы маленькі штраф дасягае 700 і больш тысяч, а пасля такіх "прэміяльных" прападае ўсякая ахвота працаваць. Вось і шукаюць прадаўцы працу больш спакойную. Моладзь у гэту сферу таксама не рвецца: з 30 накіраваных па размеркаванні ў райпа прыйшлі працаваць толькі 10 маладых прадаўцоў. Праз цэнтр занятасці падрыхтавалі яшчэ 10 спецыялістаў гандлю, але з іх толькі 3 сталі за прылавак.



## Лічба нумара

**24811**

млрд. $ - такім быў летась аб'ём знешняга гандлю таварамі Беларусі з Расіяй. Расійскі рынак для нашай краіны застаецца вядучым, і ў мінулым годзе ён практычна вярнуўся на дакрызісны ўзровень. Іншая справа, што пры росце айчынных таварных патокаў у гандлі з РФ адмоўнае беларускае сальда знешняга гандлю вырасла да мінус 7 млрд. долараў. Гэта стала адным з галоўных фактараў скарачэння золатавалютных рэзерваў краіны разам з пашырэннем аб'ёмаў валюты, скупленай насельніцтвам.

Увогуле, зараз Беларусь гандлюе са 187 краінамі свету, айчынныя тавары імпартуюцца ў 152 дзяржавы. Беларускія фірмы закупляюць тавары ў 171 краіне, практычна на ўсіх кантынентах, а аб'ём экспартна-імпартных аперацый летась за 11 месяцаў дасягнуў амаль 53 млрд. долараў. З гэтых сум амаль палова, альбо 47 % знешняга гандлю, прыходзіцца на Расію. Пасля пэўнай знешнепалітычнай ізаляцыі, узнікшай пасля пагаршэння адносін з Захадам, арыентацыя на ўсходні рынак яшчэ больш узрасце, бо куды болей нам падзецца.

Дарэчы, у гандлі з астатнім светам за межамі СНД знешнегандлёвае сальда таксама адмоўнае і склала мінус 2,6 млрд. долараў. Менавіта расіяне найбольш купляюць тавараў пад шыльдай "Зроблена ў Беларусі" і летась нарэшце выраслі адгрузкі прадукцыі беларускага машынабудавання і металаапрацоўкі, і толькі пастаўкі айчыннай сельгастэхнікі скараціліся на 11,3 %. Аднак без беларускіх прадуктаў харчавання Расія не можа абыходзіцца: пастаўкі туды малака і мясапрадуктаў узраслі амаль на 30 - 40 %.

У гэтым годзе беларускія аграрыі атрымалі даручэнне яшчэ больш павялічыць адгрузку на расійскі рынак харчавання: малака нават болей на 10,5 % , да 3,6 млн. тон, бо гэта выгадна па закупачных цэнах, крыху вышэйшых за сусветныя. Іншая справа, што можа пры гэтым крыху пацярпець айчынны спажывец. Пасля новага года ў беларускай сталіцы прыкметна знізіўся асартымент малакапрадуктаў, замест натуральных кефіра, тварагу, не кажучы ўжо пра йогурты, сталі прапаноўваць гэтыя тавары, вырабленыя з разведзенага сухога малака. Нармальнае малако ёсць у продажы, але яго на ўсіх мінчан не хапае.

У гэтай сітуацыі крыўдна, што адносіны суседзяў па-ранейшаму нельга назваць партнёрскімі і паважлівымі. На расійскіх тэлеканалах працягваецца, па-сутнасці, пасля выбараў "інфармацыйная вайна" з акцэнтам на палітычныя рэпрэсіі, і гэтыя сюжэты сталі са спутнікаў на прыёме ў Беларусі выразаць і не паказваць наогул. Ды ў любы час, а падставу для гэтага ў патрэбны момант можна знайсці, зноў можа паўтарыцца "малочная вайна". Канцэрн "Газпрам" не пайшоў насустрач суседу і з новага года павялічыў для беларусаў цану на газ на 17 %, да ўзроўню сярэднееўрапейскіх цэн засталося толькі каля 60 долараў.

На практыцы Расія як больш моцны сусед дыктуе Беларусі правілы паводзін, і сітуацыя можа крыху змяніцца, калі запрацуе механізм Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы. А вось патрыманыя імпартныя легкавыя аўтамабілі для беларусаў бягучым летам істотна падаражэюць. На гэтым фоне засталася праблема з пастаўкамі расійскай бяспошліннай нафты. Расійскія нафтавыя кампаніі сталі дабівацца павышэння кошту нафты на 45 USD/тона. Пры такіх умовах яе перапрацоўка на беларускіх НПЗ становіцца нявыгаднай і прыносіць адны толькі страты.

Нядаўна ў Маскве прайшлі па нафтавых пытаннях перамовы прэм'ер-міністраў абедзвюх краін, бо неўзабаве заканчваліся запасы гэтай сыравіны на заводах у Наваполацку і Мазыры. Нейкі баланс інтарэсаў бакі знайшлі, але беларускае кіраўніцтва з абяцаных раней Масквой 4,1 млрд. долараў датацый на нафтаперапрацоўку атрымае каля паловы гэтай сумы. Праўда, Крэмль абяцае нам выдаць крэдыт і, магчыма, пабудаваць Беларускую АЭС і нават дапамагчы з аплатай падаражэўшага газу.

Як вынікае цяпер, нават на вышэйшым узроўні гаворыцца, што зараз Беларусі прыйдзецца жыць па сродках. Беларусам абяцаюць, што жыць будзем у лепшым выпадку "не горш, чым учора". Аднак на сацыяльна значныя тавары дазволена павышаць цэны на 0,7% у месяц (летась было 0,5%), а як будзе на самай справе, жыццё пакажа.

Пастаўскі раён

# У дэфіцыце ... прадаўцы

■ Чэслаў Якубовіч

**У нядаўнім мінулым савецкія людзі пастаянна сутыкаліся з таварным дэфіцытам, жылі па прынцыпу не купіць, а нешта "дастаць" па знаёмству.**

Праўда, жыхароў Пастаўскага раёна выручала суседства з Літвой, і за каўбасой, кавай і нават зялёным гарошкам яны ездзілі ў Вільнюс. Цяпер паліцы магазінаў запоўненыя, але у студзені прыйшлося закрыць гандлёвыя кропкі ў вёсках Палхуны і Янчукі, бо там няма каму працаваць. Хоць мясцовае райпа лепшае на Віцебшчыне і толькі ў сельскай мясцовасці мае 53 свае магазіны і 10 аўтамагазінаў, але тут 38 прадаўцоў звольніліся з працы перад навагоднімі святамі. Нават у райцэнтры ўзнік недахоп 20 гандлёвых работнікаў. Апошнім часам патрабаванні да росту гандлёвага тавараабароту толькі растуць, як і розныя праверкі шматлікіх кантралюючых арганізацый. За пэўныя ўпушчэнні цяпер самы маленькі штраф дасягае 700 і больш тысяч, а пасля такіх "прэміяльных" прападае ўсякая ахвота працаваць. Вось і шукаюць прадаўцы працу больш спакойную. Моладзь у гэту сферу таксама не рвецца: з 30 накіраваных па размеркаванні ў райпа прыйшлі працаваць толькі 10 маладых прадаўцоў. Праз цэнтр занятасці падрыхтавалі яшчэ 10 спецыялістаў гандлю, але з іх толькі 3 сталі за прылавак.

Глыбоцкі раён

# Цыгарэта – забойца

■ Чэслаў Якубовіч

**Год толькі пачаўся, але ў розных кутках вобласці былі зафіксаваны пажары, якія адбыліся па аднолькавым сцэнарыі і з сумнымі наступствамі.**

Не стаў выключэннем і Глыбоцкі раён, дзе трагічна загінуў 43-гадовы жыхар вёскі Папшычы, работнік мясцовага сельгаспрадпрыемства. Напярэдадні трагедыі ў ноч з нядзелі на панядзелак мужчына выпіў з разам пражываючым у хаце бацькам. Потым вяскоўцы ляглі спаць у розных пакоях, але адзін з іх не патушыў цыгарэту. Глыбокай ноччу каля дзвюх гадзін старэйшы прачнуўся і адчуў моцны пах дыму. Бацька паспеў выбегчы з дому і паведаміць пра пажар суседзям. Тым часам агонь моцна ўжо палыхаў і памяшканне было так задымлена, што не давала выратаваць чалавека. Неўзабаве абваліўся і дах. У выніку вогненнага здарэння не стала чалавека, які мог бы жыць і жыць. На жаль, вельмі часта нападпітку людзі забываюцца, што курыць у нецвярозым стане вельмі небяспечна, бо чалавек не кантралюе свой стан. Расплата за такія паводзіны прывяла да гібелі і 54-гадовага жыхара Расонскага раёна. Два жыцці забрала полымя ў вёсцы Юрцава Аршанскага раёна, дзе, праўда, мяркуецца, што бяду прынеслі выпаўшыя з-за недагляду вуглі з незачыненай дзверцы печкі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 03.02.11 | | | | пятніца 04.02.11 | | | | субота 05.02.11 | | | | нядзеля 06.02.11 | | | | пн. 07.02.11 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература С° | 0 | -1 | 0 | 0 | -2 | -1 | -1 | -1 | -1 | -2 | -2 | -2 | +1 | +1 | +1 | -1 | -3 | -1 | +1 |
| Ціск, мм | 745 | 745 | 744 | 741 | 743 | 743 | 742 | 737 | 735 | 736 | 738 | 737 | 733 | 734 | 738 | 741 | 743 | 741 | 740 |
| Вільготнасць, % | 94 | 92 | 95 | 99 | 93 | 90 | 91 | 93 | 89 | 87 | 92 | 96 | 95 | 92 | 90 | 91 | 93 | 97 | 95 |
| Напрамкі ветру, м/с | З 6 | З 5 | Ю-З 6 | З 6 | З 7 | З 7 | З 7 | Ю-З 9 | З 8 | З 8 | З 6 | Ю-З 3 | З 8 | З 10 | З 9 | З 7 | З 4 | Ю 3 | З 6 |
| | | 07:58 | 16:49 | | | 07:56 | 16:51 | | | 07:54 | 16:53 | | | 07:52 | 16:55 | | 07:50 | 16:58 | |
| | | 07:41 | 17:38 | | | 07:55 | 18:50 | | | 08:08 | 20:01 | | | 08:20 | 21:12 | | 08:32 | 22:22 | |
| Фазы Месяца | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

# Дзень за днём

Каля 10 тысяч юнакоў прызвалі ў Беларусі на тэрміновую ваенную службу, сярод іх упершыню пайшлі служыць студэнты-завочнікі, амаль 30 тысяч хлопцаў атрымалі адтэрміноўкі ад войска для працягу вучобы. Новы тэрмін кіравання краінай зноў абранага Прэзідэнта Беларусі супаў з даволі сур'ёзным міжнародным скандалам і пагаршэннем узаемаадносін з Еўрасаюзам і ЗША. Перад інаўгурацыяй беларускага лідара 13 кіраўнікоў замежных дыпмісій дэманстратыўна пакінулі РБ. У выніку апошняй амністыі вызвалілі з турмаў 3300 чалавек, а яшчэ амаль 9 тысячам зняволеным на год скарацілі тэрмін пакарання.

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Нямецкая эканоміка вырасла ў 2010 годзе на рэкордных 3,6 % - гэта найлепшы паказчык пасля аб'яднання з ГДР у 1990 годзе, у свеце расце попыт на якасныя тавары.

**Расія.** Пасля тэракту ў маскоўскім аэрапорце Дамадзедава, дзе загінула і пацярпела каля 200 чалавек, ва ўсіх буйнейшых транспартных цэнтрах краіны ўзмацнілі меры бяспекі.

**ЗША**. Вучоныя анкацэнтра пры Тэхаскім універсітэце вынайшлі новы метад аналізу крыві, які распазнае адзіную хворую ракавую клетку сярод іншых мільёнаў здаровых.

**Польшча.** Міністэрствы замежных спраў і палітыкі Польшчы і Германіі выказалі пратэст у сувязі з абвінавачваннямі ў спробе арганізацыі ў РБ дзяржаўнага перавароту.

**Кітай.** Ваенныя правялі паспяховыя выпрабаванні свайго першага арбітальнага беспілотнага апарата, які ў космасе на працягу 270 дзён здольны збіваць спутнікі сувязі.

**Іспанія.** З дапамогай спецслужб ЗША і Беларусі тут ліквідавалі міжнародную злачынную групу з 49 членаў, якія стварылі ў Інтэрнэце 200 сайтаў для продажу дзіцячага порна.

**Францыя.** Пасаду новага лідара правай партыі – Нацыянальнага фронту– заняла 42-гадовая Марын Ле Пен, якая збіраецца ўдзельнічаць у выбарах прэзідэнта ў 2012 годзе.

**ЗША.** Дзярждэпартамент прыгразіў ураду РБ увесці жорсткія санкцыі, калі не будуць адпушчаны на свабоду ўсе затрыманыя ў сувязі з падзеямі 19 снежня ў Мінску.

**Японія.** Спецыялісты канцэрна NEC распрацавалі тэрмометр-люстэрка, які вызначае праз некалькі секунд тэмпературу цела хворага чалавека, калі той толькі зірне на прыбор.

**Расія.** Правячая партыя "Адзіная Расія" упершыню афіцыйна выказалася на сваім сайце Дзярждумы за перанос цела бальшавіцкага лідара У. Леніна з Маўзалея ў Маскве.

**Італія**. След за пракуратурай Мілана Ватыкан асудзіў неразборлівасць у інтымных сувязях прэм"ер-міністра краіны Сільвія Берлусконі за вечарынкі з падлеткамі на віле.

**Ізраіль.** Археолагі з Тэль-Авіўскага ўніверсітэта знайшлі найстарэйшую ў свеце стаянку старажытнага чалавека, які жыў у пячоры Касэм каля 400 тысяч гадоў таму назад.

**Іран.** Улады краіны забаранілі выраб любых падарункаў да заходняга свята - Дня святога Валянціна, якое быццам не падыходзіць да асноўных пастулатаў ісламскай культуры.

**Польшча.** Краіна стала жыць значна лепш, толькі на калядныя падарункі палякі аддалі каля 6 млрд. еўра, летась продаж аўтамабіляў вырас на 16%, бытавой тэхнікі – на 26%.

**ЗША.** Знакаміты акцёр Майкл Дуглас паведаміў, што яго ўрачам удалося справіцца з ракавай пухлінай горла і ён пачаў рыхтавацца да новых здымкаў у кіно.

# Белтэлекам» абяцае зменшыць тарыфы на інтэрнэт




■ Алесь Сьнег

**26 студзеня на прэс-канферэнцыі генеральны дырэктар нацыянальнага аператара электрасувязі Кастусь Цікар паведаміў, што РУП «Белтэлекам» працягне палітыку зніжэння тарыфаў, у тым ліку на доступ у інтэрнэт. Пра гэта піша БелаПАН.**

«Вядома, тарыфы будуць змяншацца. Захаваем мы гэтыя тэмпы ці не, але тэндэнцыя будзе - гэта стоадсоткава», - запэўніў Цікар.

«Сёння кошт доступу ў інтэрнэт - гэта ўжо менш актуальны бізнес. Сёння трэба рухацца ў бок кантэнту, каб людзі куплялі не проста доступ, а каб яны куплялі паслугі на базе гэтага доступу. У прыватнасці, напрыклад, IPTV - частка гэтага кантэнту», - сказаў кіраўнік «Белтэлекама».

Ён падкрэсліў, што за пяць гадоў шматлікія тарыфы былі зніжаны ў дзясяткі і сотні разоў. «Я лічу, што на сённяшні дзень яны сталі досыць даступнымі як для насельніцтва, так і для юрыдычных асоб», - дадаў Цікар.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Айчынныя медыкі выявілі, як пацвердзілі ў Міністэрстве аховы здароўя РБ, у некалькіх хворых "свіны" грып A/H1N1, ад яго ў сталіцы ў 2009 г. памерла 88 чалавек.

**Салігорск.** Спецыялісты РУП "Белгеалогія" пацвердзілі выяўленыя запасы калійных солей на радовішчы Нежына ў памеры 311,3 млн. тон, яны стануць тут базай новага рудніка.

**Астравец.** Жыхары райцэнтра чакаюць, што да канца 1-га квартала будзе падпісана доўгачаканае пагадненне з Расіяй па будаўніцтве першай Беларускай атамнай станцыі.

**Пінск.** Зняты з пасады гендырэктар "Пінскдрэва" Лоран Арыніч назваў поўным абсурдам незаконны загад "Беллесбумпрама" аб прызначэнні новага кіраўніка холдынга.

**Брэст.** З-за цёплага цыклона, адлігі і дажджоў зімой падтапіла прыгарадную вёску Неплі, пад вадой апынуліся сотні прыватных падворкаў і склепаў прыватнага сектара горада.

**Гродна.** У самай развітай у краіне ў сферы АПК вобласці з існуючых цяпер 690 малочнатаварных ферм толькі 139 мадэрнізаваны і аснашчаны сучаснымі механізмамі.

**Мінск.** Услед за створаным 5 гадоў назад палком міліцэйскага спецназа ў сталіцы будзе створана і размесціцца дадатковае такое спецпадраздзяленне для кантролю сітуацыі.

**Гомель.** Абласны цэнтр прыняў эстафету ад Полацка і стаў на год "культурнай сталіцай" Беларусі, у горадзе працуюць 3 тэатры, цырк, 3 аркестры, ёсць палаца-паркавы ансамбль.

**Мінск.** Ва ўсіх інфармацыйных праграмах асноўных расійскіх тэлеканалаў у Беларусі раптам "зніклі" ўсе беларускія сюжэты, іх можна глядзець па талерцы альбо ў Інтэрнэце.

**Жыткавічы.** У вёсцы Баравая 30-гадовы раней судзімы мужчына параніў з ружжа двух міліцыянераў, а потым сам застрэліўся, у раёне гэта ўжо 3-ці выпадак нападу на міліцыю.

**Мінск.** Маці арыштаванай журналісткі Ірыны Халіп атрымала дазвол на апякунства над 3-х гадовым унукам Данікам Саннікавым, яго цяпер не забяруць у дзіцячы дом.

**Ліда.** Упершыню ў сусветнай практыцы жыхар горада выйграў у 358-м тыражы гульні "КЕНО" 900 млн. рублёў, калі зрабіў адразу 9 удалых ставак з аднолькавымі лічбамі.

**Пінск.** Па справе аб масавым атручэнні летась у дзетсадзе больш за 110 дзяцей суд пакараў повара папраўчымі работамі з утрыманнем 15% заробку, медсястру – штрафам 1,05 млн.

**Мінск.** Адразу 9 студэнтаў БДУ аказаліся пад пагрозай адлічэння з ВНУ за адбыццё адміністрацыйнага арышту, сярод затрыманых на плошчы ёсць і шэраг выкладчыкаў.

**Гродна.** Дзяржмаёмасць Украіны нарэшце прызнала права ўласнасці РБ на базу адпачынку "Гродна" у Херсонскай вобласці, якая належыць ААТ "Гроднааблаўтатранс".

# У Оршы пачалася эпідэмія грыпу

■ Сяржук Серабро

**Эпідэміялагічны парог захворвання вострымі рэспіраторнымі інфекцыямі і грыпам перавышаны ў Оршы. Таксама перадэпідэміялагічны ўзровень адзначаны ў Віцебску, Наваполацку і Полацку.**

**У Оршы** за апошні тыдзень студзеня захворванне на грып павялічылася на чвэрць у параўнанні з папярэднім і складае 1887 чалавек на 100 тысяч насельніцтва. Большасць захварэлых - дзеці і падлеткі. У наш час карантын уведзены ў школе №27 і ў школе мястэчка Балбасава.

Галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Беларусі Алег Арнаутаў адзначае, што сёлета медыкі лепш падрыхтаваліся да сезоннай эпідэміі грыпу: «У цяперашні перыяд, папярэдні ўздыму захворвання, прышчэплена каля 2 млн. 170 тыс. чалавек. Праароблены велізарны пласт прафілактычнай працы. Колькасць прышчэпленых жыхароў краіны ў 2011 годзе перавышае леташнюю больш чым ў два разы (у 2010 годзе было прышчэплена каля 9% насельніцтва, у гэтым - 22,7%)».

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У пачатку гэтага года запасы гатовай і нерэалізаванай прадукцыі на складах асноўных прамысловых прадпрыемстваў вобласці дасягнулі 489,6 млрд. рублёў.

**Орша.** Мясцовы льнокамбінат стане галаўным прадпрыемствам льнянога холдынга, які запланавана стварыць сёлета з удзелам шэрагу льнозаводаў, швейных фабрык, НДІ лёну.

**Ушачы.** З-за недахопу сродкаў так і не ўдалося летась завяршыць абуладкаванне шэрагу аб'ектаў новага аграгарадка Глыбачка: бальніцу, клуб, бібліятэку і офіс сельсавета.

**Віцебск.** Напярэдадні чакаемай эпідэміі грыпу ўдалося зрабіць прышчэпкі супраць ВРВІ амаль 286 тысячам жыхарам вобласці, з іх 254 тысячам - за сродкі дзяржбюджэту.

**Полацк**. У горадзе прайшла стартавая міжнародная канферэнцыя па ажыццяўленні тут новага праекта ЕС коштам 620 тыс. EUR па выкарыстанні альтэрнатыўнай энергіі.

**Лёзна.** Камітэт дзяржкантролю выявіў, што ў раёне найгорш на Віцебшчыне выкарыстоўваецца дзяржмаёмасць, 31,5 тыс. кв. метраў (10,7%) наогул прастойваюць.

**Віцебск.** Толькі 11 хлопцаў з 422 звольніўшыхся ў запас выказалі жаданне застацца служыць далей па кантракту ў 103-й гвардзейскай мабільнай брыгадзе дэсантнікаў.

**Дуброўна.** У райцэнтры вырашылі ўзвесці другі па ліку буйны гандлёвы цэнтр шляхам аб'яднання пад адным дахам асобных дробных магазінаў і мінікафэ, што зручна людзям.

**Глыбокае.** Цэнтр горада ў вячэрні час сталі ўпрыгожваць аб'ёмныя светавыя фігуры ў выглядзе "ледзяных" фантанаў, на святочную ілюмінацыю райцэнтра пайшло 65 млн. руб.

**Віцебск.** Да засмучэння студэнтаў-платнікаў дзяржуніверсітэта імя П. М. Машэрава кошт навучання на стацыянары павялічыўся адразу на 17 %, для 5-га курса – на 12,2 %.

**Браслаў.** Жыхары райцэнтра і шэрагу сельсаветаў раёна неўзабаве змогуць без віз ездзіць у Літву і Латвію, дзе адменена плата за афармленне доўгатэрміновых віз.

**Шуміліна.** У кожным з 7-і правераных магазінаў мясцовага райпа ў продажы для людзей знаходзіліся тавары з пратэрміноўкай нават да 8,5 месяцаў.

**Гарадок.** Жыхароў райцэнтра парадавала, што ў рамках падрыхтоўкі да правядзення ў 2012 годзе абласных "Дажынак" не будзе перанесены рынак з цэнтра горада.

**Наваполацк.** Практычна ўсе мацнейшыя ігракі ФК "Нафтан" у міжсезонне пакінулі асламлены клуб, яны, як і ФК "Віцебск", будуць сярод аўтсайдараў чэмпіяната РБ па футболе.

**Віцебск.** Гарадскі народны маладзёжны хор пад кіраўніцтвам Віталя Раузы стаў пераможцам міжнароднага фестываля духоўнай музыкі "Сярэбраныя званы" ў Латвіі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Вячаслаў Бука,
*прафесар, доктар біялагічных навук, краязнаўца, г. Гродна.*

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫСТ ШАРКОЎШЧЫНСКАГА КРАЮ.

## Да 75-годдзя з дня нараджэння К.А. Кожана

У студзені гэтага года споўнілася 75 гадоў Кліменцію Кожану. Чытачам "Вольнага Глыбокага" ён вядомы перадусім як сталы аўтар цікавых краязнаўчых артыкулаў. Але зрэшты, калі вам захочацца даведацца пра яго больш – трэба толькі заглянуць у Інтэрнэт. І адразу пойдзе кругам галава, і вам будзе здавацца, што Кліменцій Кожан – гэта не адна асоба, іх безліч, Кліменціяў Кожанаў. Прапаную толькі загалоўкі файлаў па тэме: Кожан Кліменцій – вядомы ў рэгіёне краязнаўца, друкуецца у газетах раённых і рэспубліканскіх, прымаў удзел у напісанні кнігі "Памяць"; настаўнік Кліменцій Кожан; Кліменцій Кожан, выдатны вучоны і краязнаўца; Кліменцій Кожан, навуковы супрацоўнік Германавіцкага музея культуры і быту; Кліменцій Кожан, жыхар в. Германавічы Шаркоўшчынскага раёна. Як ні дзіўна, але рэч ідзе аб адным і тым жа чалавеку, Кліменцію Арсенцьевічу Кожану.

Мы сябруем з Кліменціем Арсенцьевічам завочна: пазнаёміліся па тэлефоне праз майго калегу, земляка і прыяцеля, прафесара Андрэя Майсяёнка. Мяне цікавіла тое-сёе з нагоды выдання шаркоўшчынскай кнігі "Памяць", мы разгаварыліся і з той пары то перапісваемся, то размаўляем па тэлефоне: мяне вельмі цікавяць падзеі, якія адбываюцца на маёй малой радзіме. Зрэдку Кліменцій Арсенцьевіч высылае мне нумары "Бацькаўшчыны", шаркоўшчынскай рэгіянальнай газеты, але часцей я чытаю яго артыкулы, надрукаваныя у газеце "Вольнае Глыбокае", якую я па яго ж рэкамендацыі цяпер стала атрымоўваю у Гродне, ці у раёнцы, асобнікі якой мне час ад часу дасылае мая аднакласніца, былая настаўніца Раіса Аркадзеўна Лазовік (з Собаляў). Трэба сказаць, што я заўсёды з нецярпеннем чакаю новай публікацыі Кліменція Арсенцьевіча і атрымоўваю новую інфармацыю ці пра знаёмыя мясціны, ці пра асабіста вядомых мне асоб. Героі яго артыкулаў - гэта і мой школьны настаўнік Арсень Сяргеевіч Ліс, і доктар Мікалай Герасімовіч, які лячыў мяне ў дзяцінстве, і Генадь Іванавіч Цітовіч, з якім мне пашчасціла двойчы сустрэцца ў мае студэнцкія гады, а бацька якога, айцец Іван, вянчаў маіх маму і тату ў Лужэцкай царкве, артыкулы пра нашага выдатнага земляка прафесара Барыса Кіта, з якім мы даўно сябруем і рэгулярна сустракаемся пад час маіх штогадовых паездак у Германію, пра майго добрага сябра, пісьменніка Германа Кірылава з Полацка, дарэчы, аднакласніка юбіляра па Шкунцікаўскай школе, а таксама пра прафесара Андрэя Майсяёнка і яго бацьку, вядомага у нашых краях лекара Георгія Нікіфаравіча, з якім у дзяцінстве мая пяцігадовая мама гуляла ў пясочку….

Хацеў бы пажадаць нашаму слаўнаму юбіляру моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту і новых поспехаў у яго плённай і патрэбнай нам усім працы. А для тых, хто цікавіцца жыццёвым шляхам Кліменція Арсенцьевіча, дадаю ніжэй яго біяграфічныя звесткі і бібліяграфію.



Нарадзіўся Кліменцій Арсенцьевіч Кожан 23 студзеня 1936 года у вёсцы Балбекі Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці (раней Дзісенскага павету Віленскага ваяводства). 1 верасня 1944 года пайшоў у першы клас Мнюцінскай пачатковай школы, якую закончыў у 1948 годзе. З 1 верасня 1948 года да чэрвеня 1951 года вучыўся ў Шкунцікаўскай няпоўнай сярэдняй школе. Гэтыя школы закончыў з пахвальнымі граматамі. Летам 1951 года прыняты ў Глыбоцкае педвучылішча без уступных экзаменаў. Закончыў яго ў чэрвені 1955 года з дыпломам выдатніка. У жніўні 1955 года паступіў на аддзяленне рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ.

Пасля заканчэння БДУ у 1960 г. быў накіраваны на працу ў Браслаўскі раён. З 15 жніўня 1960 г. да жніўня 1964 г. працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў Карасінскай сярэдняй школе Мяжанскага сельсавета. З 1 верасня 1964г. да 25 жніўня 1966г. – настаўнікам гісторыі і геаграфіі ў Рудаўскай 8-гадовай школе Ахрэмавецкага сельсавета. 25 жніўня 1966 г. пераехаў у Шаркоўшчынскі раён. З 25 жніўня 1966 г. да 31 жніўня 1967 г. працаваў школьным інспектарам у Шаркоўшчынскім раённым аддзеле народнай асветы. З 1 верасня 1967 г. да 30 чэрвеня 1996г. працаваў настаўнікам рускай мовы, літаратуры і гісторыі ў Германавіцкай сярэдняй школе. 23 студзеня 1996г. выйшаў на пенсію.

**Летам 1951 года прыняты ў Глыбоцкае педвучылішча без уступных экзаменаў. Закончыў яго ў чэрвені 1955 года з дыпломам выдатніка.**

У Германавіцкай сярэдняй школе вёў вялікую грамадскую працу. Быў прапагандыстам, лектарам па міжнародных і ідэалагічных пытаннях, кіраўніком міжшкольнага метадычнага аб'яднання настаўнікаў гісторыі і грамадазнаўства, старшынёй пярвічнай арганізацыі, таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Працуючы ў Браслаўскім раёне, зацікавіўся краязнаўствам, багатай гісторыяй Браслава і яго ваколіц. У Шаркоўшчынскім раёне прадоўжыў краязнаўчую працу. Збіраў матэрыялы па гісторыі свойго краю ў архівах і бібліятэках Мінска, Вільнюса, Рыгі, Віцебска, Глыбокага, Падольска (Маскоўскай вобласці) для раённай кнігі "Памяць", якая выйшла ў 2004г.

Надрукаваў сотні артыкулаў на краязнаўчыя, гістарычныя, літаратурныя тэмы ў раённай, абласных і рэспубліканскіх газетах. У 2000-2010 гг. шмат артыкулаў надрукавана ў рэгіянальнай газеце "Вольнае Глыбокае".

Разам з Адай Эльеўнай Райчонак стварылі гісторыка-краязнаўчы музей ў Германавіцкай сярэдняй школе, а таксама Германавіцкі музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, які ў 1992 годзе стаў дзяржаўным музеем. Пасля выхаду на пенсію каля 10 гадоў працаваў навуковым супрацоўнікам гэтага музея. Член культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча ў Германавічах і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Рэгулярна прымае ўдзел у краязнаўчых канферэнцыях, якія рэгулярна праводзіць Ада Эльеўна Райчонак па лініі культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча. Удзельнічаў у шасці "Браслаўскіх чытаннях" ( у 1989, 1991, 1994, 1997, 2000 і 2003 гадах), а таксама ў "Дзісенскіх чытаннях", якія прайшлі ў Мёрах у чэрвені 1996 года і ў Глыбокім у чэрвені 1999 г. Падтрымліваў сувязь з музеямі суседніх раёнаў. Прымаў удзел у рэгіянальных, абласных і рэспубліканскай навукова-краязнаўчых канферэнцыях, круглых сталах і іншых мерапрыемствах. З 2000-га года ўдзельнічаў ў падрыхтоўцы матэрыялаў для газеты "Бацькаўшчына", якая выдаецца Германавіцкім культурна-асветніцкім цэнтрам імя Язэпа Драздовіча і мясцовай суполкай Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Удзельнічаў у 1-м, 2-м і 3-м з'ездах МГА "Згуртаванне беларусаў свету" "Бацькаўшчына" ў 1993, 1997 і 2001 годах.

**Мае наступныя ўзнагароды:**

1. У 1970 г. адзначаны Граматай таварыства "Веды" БССР.
2. У 1970 г. узнагароджаны юбілейным медалём "За доблестный труд в ознаменование 100-летия со дня рождения В.И.Ленина".
3. У 1976 г. узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства асветы БССР.
4. У 1977 г. узнагароджаны Ганаровай граматай Прэзідыума абласнога Савета Педагагічнага таварыства БССР.
5. У 1984 г. атрымаў нагрудны знак "Выдатнік народнай асветы БССР".

Апрача гэтага, у розныя гады быў узнагароджаны ганаровымі граматамі Шаркоўшчынскага РК КПБ і райвыканкама, Шаркоўшчынскага РАНА і РК галіновага прафсаюза.

**Кожан Кліменцій Арсеньевіч**

### Артыкулы, надрукаваныя ў газеце "Вольнае Глыбокае"

**(пералік асноўных матэрыялаў)**

**2003 г.**

1. Памяці доктара (на смерць Георгія Нікіфаравіча Майсяёнка) №32 (175) 7-13 жніўня 2003 г.
2. Шаркоўшчыне – 500 гадоў. №14 (184) 9-15 кастрычніка 2003 г.

**2004 г.**

3. Выдатны вучоны і краязнаўца (пра чалавека 2003 года Андрэя Георгіевіча Майсяёнка). №1 (196) 1-7 студзеня 2004 г.
4. Арсеню Лісу – 70 гадоў. №13 (208) 25-31 сакавіка 2004 г.
5. Язэп Драздовіч і германавіцкая "Заранка" (да 85-годдзя яе заснавання). №15 (210) 8-14 красавіка 2004 г.
6. Космас у творчасці Язэпа Драздовіча. №16 (211) 15-21 красавіка 2004 г.
7. Петр Касцюкевіч – мастак і паэт (Да 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў). №23 (218) 3-9 чэрвеня 2004 г.
8. Баявы шлях палка (Бой на Браслаўшчыне і ў Прыбалтыцы 1406 зенітна-артылер. палка, да 60-годдзя вызвалення Беларусі). №47 (242) 18-24 лістапада 2004 г.

**2005 г.**

9. Такім ён быў. (Уступ да ўспамінаў Ірыны Адольфаўны Качан-Янцэвіч). №45 (292) 3 лістапада 2005 г.

**2006 г.**

10. Слаўны сын Беларусі (Да 85-годдзя з дня нараджэння Міколы Ермаловіча) №24 (324) 15 чэрвеня 2006 г.
11. Паўстанне 1831 года ў Дзісенскім павеце. (Да 175-годдзя паўстання). №143 (343) 26 кастрычніка 2006 г.
12. Паўстанне 1831 года ў Дзісенскім павеце. (заканчэнне). №144 (344) 2 лістапада 2006 г.
13. Кожнаму краязнаўцу – па "Краязнаўчай газеце". №49 (349) 7 снежня 2006 г.

2007 г.

14. Часопіс "Полымя" і краязнаўства. №9 (361) 1 сакавіка 2007 г.
15. Вітаўту Кіпелю – 80. №26 (378) 28 чэрвеня 2007 г.
16. Георгію Штыхаву – 80 гадоў. №31 (383) 2 жніўня 2007 г.
17. Вячаславу Бука – 65 гадоў. №42 (394) 18 кастрычніка 2007 г.
18. Гэту сцежку ведалі многія (Да 115-годдзя з дня нараджэння Зоські Верас). №43 (395) 25 кастрычніка 2007 г.
19. Гэту сцежку ведалі многія (заканчэнне). №44 (396) 1 лістапада 2007 г.
20. Зміцер Хведаравіч Жылуновіч (Цішка Гартны). (Да 120-годдзя з дня нараджэння) №49 (401) 6 снежня 2007 г.
21. Герману Кірылаву – 70 гадоў. №50 (402) 13 снежня 2007 г.
22. На крутым павароце гісторыі (Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Дзісенскім павеце). №47 (399) 22 лістапада 2007 г.

2008 г.

23. З гісторыі Шкунцікаўскай школы. №7 (411) 14 лютага 2008 г.
24. З гісторыі Шкунцікаўскай школы (працяг) №8 (412) 21 лютага 2008г.
25. З гісторыі Шкунцікаўскай школы(працяг) №9 (413) 28 лютага 2008г.
26. З гісторыі Шкунцікаўскай школы (заканч.) №10 (414) 6 сакавіка 2008г.

*Заканчэнне на стар. 5*

**Если предрассудки и заблуждения старого поколения насильно, с малых лет, вкоренятся во впечатлительной душе ребенка, то просвещение и совершенствование целого народа замедлится этим несчастным обстоятельством.**

*Н.А.Добролюбов*

# Не столькі модна, колькі шкодна



■ **Фадзей Шымуковіч,** *педагог-пенсіянер, г. Дзісна*

Сёння курэнне – планетарная праблема чалавецтва, якая ахапіла ўсе кантыненты нашай Зямлі, усе нацыі, народы і плямёны – незалежна ад культуры, адукацыі, веравызнання, узросту і полу. Курэнне стала модным. Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, зараз толькі ў Расіі травяць сябе і навакольных табачным дымам і ядамі, якія ўтвараюцца пры гарэнні табакі, каля 75% мужчын і 40% жанчын. Па прычыне курэння кожны год памірае каля 300 тысяч чалавек і каля 830 чалавек кожны дзень, або 35 чалавек у гадзіну. Аналагічных дадзеных па Беларусі ў мяне няма. Так ці інакш, многія з нас добраахвотна скарачаюць сабе жыццё, набываюць хваробы. Шкода ад курэння стаіць на трэцім месцы пасля алкаголю і наркотыкаў. Калі рэгулярна глядзець тэлеперадачу "Зона Х", то лёгка заўважыць такі алгарытм: выпіў, закурыў, лёг у пасцель і згарэў разам з домам.

Чаму ж тады чалавецтва не можа раз і назаўсёды пакончыць з гэтым злом? Адказ ляжыць на паверхні. Як алкаголь і наркотыкі, так і табака прыносяць вялікую прыбыль. Гэтыя табачныя прадпрыемствы маюць фантастычную рэнтабельнасць, якая вылічваецца сотнямі, а то і тысячамі працэнтаў. Дапусцім, курыльшчык выкурвае пачак цыгарэт у суткі, памножце гэта на 365 дзён у годзе, на адзін мільярд курцоў (а іх намнога больш), памножце на кошт адной пачкі цыгарэт, і вы прыйдзеце ў жах ад атрыманай сумы!

Курэнне з'явілася 500 год таму назад. Табака была завезена Хрыстафорам Калумбам у Іспанію і Партугалію ў канцы 15 ст. з Амерыкі. Спачатку выкарыстоўвалася ў якасці дэкаратыўнай расліны і толькі потым як курыльны прадукт. Бязмернае курэнне табакі выклікала выпадкі атручэння, што прывяло ўлады да ганення курцоў. У Англіі іх падвяргалі цялеснаму пакаранню. У Італіі Папа Урбан VII адлучаў ад царквы.

У Расію табаку завезлі ў пачатку 17 ст. Цар Міхаіл Раманаў загадаў караць курцоў палачнымі ўдарамі і плёткамі. Але курэнне паступова распаўсюджвалася і стала бытавым паронкам. Разам з курэннем развівалася нюханне і жаванне табакі. На шчасце, да нашага часу гэты парок не дайшоў.

Пры курэнні табакі вельмі хутка развіваецца прывыканне, чаму садзейнічае пераўтварэнне акта курэння ў своеасаблівы рытуал. Табачны дым утрымлівае ў сабе розныя ядавітыя рэчывы, якія пагубна ўздзейнічаюць на наш арганізм:

**1. Нікацін.** Назва ад імя француза, які ўпершыню ў 1560 годзе прывёз табаку ў Францыю. Гэта ядавітае рэчыва мае непрыемны пах і пякучы смак. Нікацін паражае нервовую сістэму, органы дыхання, страваванне, крывяную сістэму. Адна кропля нікаціну здольна забіць дарослага здаровага каня.

**2. Сінільная кіслата і мыш'як.** Сінільная кіслата– вельмі ядавітае рэчыва. Ужо 0,1міліграма з'яўляецца смяротнай дозай. Адзін грам гэтай кіслаты здольны забіць 10 тысяч чалавек! Пападаючы ў арганізм, спачатку наступае слабасць, галавакружэнне, ташната, рвота. Затым наступае рэдкае глыбокае дыханне, адышка, нарэшце, спыненне дыхання.

**3. Сцірол.** Пры курэнні ўтвараюцца пары, якія лёгка змешваюцца з іншымі ядавітымі рэчывамі і моцна раздражняюць слізістыя абалонкі.

**4. Вокіс вугляводу** выклікае парушэнне працэсаў дыхання і хваробу сэрца.

**5. Нервова-сардэчныя яды,** якія прыводзяць да нервова-псіхічных захворванняў, хваробаў крыві і сэрца.

**6. Радыёактыўны палоній** зніжае працягласць жыцця, змяняе склад крыві, выклікае рак крыві, цыроз печані, пухліну почак, тоўстага кішэчніка і інш.

**7. Канцэрагенныя смолы** прыводзяць да ракавых захворванняў і хваробаў органаў дыхання. Канцэрагенныя смолы з'яўляюцца прычынай парушэння функцый печані і почак, выклікаюць ракавыя захворванні ("концэр" у перакладзе з лацінскага – "рак", а "геніо" – з грэчаскага – "произвожу").

**8. Свабодныя радыкалы.** Наша цела падвяргаецца такому працэсу, быццам мы апынуліся ў зоне павышанай радыяцыі.

Але курыльшчык сваімі дзеяннямі наносіць шкоду не толькі свайму арганізму, а і многім іншым людзям , якія вымушаны дыхаць табачным дымам, травіць свой арганізм не па сваёй волі. А сярод іх дзеці, жанчыны, нават цяжарныя.

Чалавек, які кожны дзень выкурвае 20 цыгарэт, за 20 год "адкладвае" ў сваіх лёгкіх каля 6 кг (!!!) сажы.

Падлічана, што насельніцтва нашай Зямлі кожны год выкурвае 12 більёнаў папірос і цыгарэт. Пры іх выкурванні застаюцца гільзы і фільтры, агульнай масай акуркаў 2 500 000 тон!

Курыльшчыкі кожны год выкідваюць у атмасферу 720 тон сінільнай кіслаты, 384 тысячы тон аміяку, 108 тысяч тон нікаціну, 600 тысяч тон дзёгцю і больш 550 тысяч тон чаднага газу і вялікую колькасць іншых складаных частак табачнага дыму. Калі ўсе гэтыя яды выкінуць у атмасферу ў адзін час, то загіне ўсё жывое на тэрыторыі, роўнай Заходняй Еўропе.

**Паважаныя чытачы!** У першую чаргу я звяртаюся да Вас, прадстаўніцы нашага цудоўнага полу, будучыя мамы, а таксама нашы дзеці і юнакі. Я ніколі не стаўлю перад сабой задачу кагосьці напужаць. Гэта глупства, ды і немагчыма, а галоўнае – непатрэбна. Чалавек павінен сам выбіраць свой жыццёвы шлях, свой лад жыцця: піць або не піць, курыць або не курыць. Але мы, старэйшае пакаленне, абавязаны даць параду. Ёсць памылкі, якія вельмі дорага каштуюць не толькі адзінкавым асобам, а вялікай колькасці людзей.

Мне проста вельмі хацелася б, каб Вы, прачытаўшы гэты артыкул, глыбока задумаліся над выказваннем старажынгагрэчаскага вучонага і філосафа Арыстоцеля, які больш за 2300 год таму вучыў нас: "Памыляцца можна многа раз, правільна паступаць можна толькі адным шляхам, таму першае лёгка, а другое цяжка: лёгка прамахнуцца, цяжка папасці ў цэль". Жадаю паважанаму чытачу заўсёды і ва ўсім пападаць толькі ў цэль, асабліва ў рашэнні праблемы піць – не піць, курыць – не курыць!

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫСТ ШАРКОЎШЧЫНСКАГА КРАЮ.

*Да 75-годдзя з дня нараджэння К.А. Кожана*

**Заканчэнне.**

*Пачатак на стар. 4*

27. 90 гадоў з дня утварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. №13 (417) 27 сакавіка 2008г.
28. 90 гадоў з дня утварэння Беларускай Народнай Рэспублікі (заканчэнне), №14 (418) 3 красавіка 2008г.
29. Валянціну Грыцкевічу – 75 гадоў. № 15 (419) 10 красавіка 2008г.
30. Валянціну Грыцкевічу – 75 гадоў (заканч.), № 16 (420) 17 красавіка 2008г.
31. Вечны вандроўнік (Да 120-годдзя з дня нараджэння Язэпа Драздовіча (працяг). №41 (445) 9 кастрычніка 2008г.
32. Вечны вандроўнік (Да 120-годдзя з дня нараджэння Язэпа Драздовіча (працяг). №42 (446) 16 кастрычніка 2008г.
33. Вечны вандроўнік (Да 120-годдзя з дня нараджэння Язэпа Драздовіча (заканч.). №43 (447) 23 кастрычніка 2008г.

**2009 г.**

34. Адраджэнне беларускай дзяржаўнасці (Да 90-годдзя ўтварэння БССР). №3 (459) 15 студзеня 2009г.
35. Адраджэнне беларускай дзяржаўнасці (Да 90-годдзя ўтварэння БССР) (працяг), №4 (460) 22 студзеня 2009г.
36. Бацька беларускай дзяржаўнасці (Да 125-годдзя з дня нараджэння Антона Луцкевіча). №7 (463) 12 лютага 2009г.
37. Арсеню Лісу -75 гадоў. №8 (464) 19 лютага 2009 г.
38. Выдатны гісторык і краязнаўца. (Да 80-годдзя з дня нараджэння Л.М. Лыча) №9 (465) 26 лютага 2009г.
39. Яна вельмі актыўна адгукнулася на ўсе падзеі беларускага жыцця. Памяці Раісы Жук-Грышкевіч. №16 (472) 16 красавіка 2009г.
40. Амаль забытая Першая сусветная вайна. №37 (493) 10 верасня 2009г.
41. Амаль забытая Першая сусветная вайна (заканч.) №38 (494) 17 верасня 2009г.
42. 17 верасня 1939 года. Да 70-годдзя ўступлення савецкіх войск у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. №39 (495) 24 верасня 2009г.
43. 17 верасня 1939 года. Да 70-годдзя ўступлення савецкіх войск у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. №40 (496) 1 кастрычніка 2009г.
44. Мікалай Герасімовіч – народны лекар. №40 (496) 1 кастрычніка 2009г.

**2010 г.**

45. Барысу Кіту – 100 гадоў. №14 (522) 8 красавіка 2010г.
46. Барысу Кіту – 100 гадоў (заканчэнне) №15 (523) 15 красавіка 2010г.
47. Парад Перамогі 1945 года. №25 (533) 24 чэрвеня 2010г.
48. Генадзь Цітовіч. Да 100-годдзя з дня нараджэння. №41 (549) 14 кастрычніка 2010г.
49. Генадзь Цітовіч. Да 100-годдзя з дня нараджэння (заканчэнне). №42 (550) 21 кастрычніка 2010г.

**2011 г.**

50. У зімовы час я звычайна займаюся нарыхтоўкай дроў (Допіс на артыкул Ф. Шымуковіча "Урокі гісторыі"). №2 (562) 13 студзеня 2011 г.

# Віншаванкі

**Віктара Пятровіча Дзевятуху**

Віншуем

**з нагоды юбілею з дня народзінаў!**

Сегодня, в день рожденья твой,
Желаем сердцем и душой
Здоровья, бодрости и смеха,
Во всех делах твоих успеха!

*Сястра Таццяна*

Віншуем

**Раловіч Марыну Міхайлаўну!**

Желаем много радости, здоровья,
Прекрасных дней и долгих ярких лет,
Пусть согревают близкие любовью,
В глазах всегда сияет счастья свет!
Пусть этот день исполнит все желанья,
На сердце станет в этот миг светлей!
Желаем мы добра и процветанья,
И чтобы все мечты сбывались поскорей!

*Сястра і яе сям'я*

**Тамару Цімафееўну Ісялёнак**

Віншуем

**з нагоды юбілею з дня народзінаў!**

Любой юбилей – это чуточку грустно,
Ведь это из жизни уходят года,
Но если года эти прожиты честно,
Не надо об это жалеть никогда.
Желаем, чтоб спутником было здоровье,
Чтоб в дверь не стучала беда,
Желаем удачі, семейного счастья
И бодрости духа всегда.

*Сястра Ангеліна і пляменніца Таццяна.*

**Іну Віктараўну Парамонаву**

Віншуем

**з нагоды юбілею з дня народзінаў!**

Пусть будет все, что в жизни нужно,
Чем жизнь бывает хороша:
Любовь, здоровье, верность, дружба
И вечно юная душа.

*Ад сястры Анюты і яе сям'і*

**Тамару Іванаўну Януэвіч**

Віншуем з юбілеем!

Всегда и грустно, и приятно
Свой день рожденья отмечать:
Уходят годы безвозвратно,
Их только успевай считать.
Но время, будто бы теченье,
Ничто не в силах удержать.
Сегодня, в день Ваш юбилейный
Мы все хотим Вам пожелать:
Не мучила бы Вас усталость,
Не знали б горя от людей,
И чтобы небо оставалось
Повсюду чище и светлей.
Так будьте впредь судьбой согреты
И оставайтесь молодой,
Пусть будет долгим «бабье лето»,
А осень – только золотой.

*Дзеці, унукі, сваты.*

Віншуем з юбілеем

**Раловіч Марыну Міхайлаўну!**

В твой чудесный день рожденья
Нам разреши тебя обнять
И подарить стихотворенье,
Любви и счастья пожелать.
И пусть здоровье будет крепким,
А сердце вечно молодым,
Пусть каждый день твой будет светлым
На радость нам и всем родным.

*Бацькі.*

З 17 студзеня 2010 года ідзе рэалізацыя абласной праграмы «Чыстыя палі», зацверджаная старшынёй Віцебскага аблвыканкама Косінцам А. Н. Па разнарадцы прадпрыемствы абавязаны выдзяляць людзей для рэалізацыі дадзенай праграмы. *Паводле http://news.vitebsk.cc.*

# У Беларусі захоўваюцца праблемы забруджвання водных аб'ектаў і паветра ў гарадах

**У Беларусі захоўваюцца праблемы забруджвання водных аб'ектаў і атмасфернага паветра ў гарадах, заявіў міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімір Цалко 28 студзеня на калегіі міністэрства ў Мінску.**

Паводле яго слоў, застаюцца вострымі пытанні забруджвання атмасфернага паветра буйнымі прамысловымі і энергетычнымі прадпрыемствамі ў Мінску, Магілёве, Наваполацку, Светлагорску, Салігорску, Гродне і іншых гарадах. Міністр адзначыў, што ў прадпрыемстваў часта адсутнічаюць дакладныя праграмы па скарачэнні выкідаў і дасягненні нарматываў якасці паветра, што выклікана невысокай патрабавальнасцю ў гэтым пытанні службаў Мінпрыроды.

Як паведаміў Цалко, на сёння не выкананы мерапрыемствы па ўкараненні аўтаматызаваных сістэм кантролю за выкідамі ў паветра на аб'ектах энергетыкі ў Мінску і Пухавіцкім раёне. Міністр таксама нагадаў, што дагэтуль не ўрэгулявана пытанне экалагічнай класіфікацыі транспартных сродкаў.

Акрамя таго, кіраўнік Мінпрыроды спыніўся на пытаннях забруджвання прадпрыемствамі водных аб'ектаў. Большасць парушэнняў звязана са скідваннем забруджвальных рэчываў. Некаторыя прадпрыемствы перавышалі межава дапушчальныя нормы скідвання забруджвальных рэчываў больш чым у 40 разоў. Толькі за 2010 год былі выяўлены 464 выпадкі перавышэння нарматываў скідвання забруджвальных рэчываў на 278 водных аб'ектах.

Як лічыць Цалко, для вырашэння праблемы трэба ўнесці змены ў заканадаўчую базу. Цяперашняя сістэма падаткаабкладання аб'ёмаў сцёкавых вод, якія паступаюць у навакольнае асяроддзе, не стымулюе прыродакарыстальнікаў да ўкаранення лакальных ачышчальных збудаванняў. Не стымулюе рацыянальнае водакарыстанне таксама нізкая стаўка падатку за «здабыванне вады», а для сельгасвытворцаў бясплатнае водакарыстанне.

Міністр адзначыў, што, нягледзячы на праблемы, за апошнія пяць гадоў у стане навакольнага асяроддзя захоўваліся ўстойлівыя станоўчыя тэндэнцыі, а па асобных паказчыках адзначалася істотнае паляпшэнне.

Так, знізілася ўтрыманне ў паветры вокісу вугляроду, аксідаў азоту. У 2010 годзе колькасць раёнаў у гарадах Беларусі, у якіх перыядычна назіраецца пагаршэнне якасці атмасфернага паветра, знізілася ў два разы ў параўнанні з 2006 годам. У два разы радзей у параўнанні з 2006 годам у 2010 годзе адзначаліся перавышэнні ўстаноўленых нарматываў якасці паверхневых вод. Паводле вынікаў 2010 года палепшылася якасць вады азёр **Кагальнае**, Лепельскае, Мёрскае, Балойса, Лядна, дзе раней адзначалася значнае ўтрыманне забруджвальных рэчываў.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# У 2010 годзе міліцыя ўстанавіла месцазнаходжанне амаль 5 тысяч злачынцаў

**У 2010 годзе органамі ўнутраных спраў Беларусі было ўстаноўлена месцазнаходжанне 4.985 злачынцаў з 5.860 абвешчаных у вышук. Пра гэта БелаПАН паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС.**

Так, у кастрычніку мінулага года ў Кіеве супрацоўнікамі галоўнага ўпраўлення крымінальнага вышуку МУС Беларусі сумесна з калегамі з дэпартамента крымінальнага вышуку МУС Украіны быў затрыманы беларускі грамадзянін, які знаходзіўся ў рэспубліканскім і міждзяржаўным вышуку. Ён нанёс урон аднаму з айчынных прадпрыемстваў на 5,7 млн. долараў.

У 2010 годзе з 1.339 абвешчаных у вышук зніклых без вестак былі адшуканыя 864 чалавекі.

У сакавіку і кастрычніку мінулага года на тэрыторыі СНД праводзіліся міждзяржаўныя спецыяльныя комплексныя мерапрыемствы «Вышук». Іх вынікам стала ўстанаўленне месцазнаходжання 559 злачынцаў і 410 зніклых без вестак.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

**Куды пайсці вучыцца**

## ОТДЕЛ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ ГЛУБОКСКОГО РАЙИСПОЛКОМА

МУС

проводит отбор граждан Республики Беларусь на службу в органы внутренних дел на должности рядового и младшего, среднего начальствующего состава. Приглашаются юноши в возрасте от 18 до 30 лет, имеющие среднее, среднее специальное, высшее образование, годные по состоянию здоровья к службе в Вооруженных Силах. Приглашаем выпускников средних школ района, а также граждан в возрасте до 25 лет продолжить обучение в учреждениях образования МВД Республики Беларусь: «Академия МВД Республики Беларусь» и «Могилевский высший колледж Республики Беларусь».

Для получения дополнительной информации обращаться в группу кадров Глубокского РОВД. Контактные телефоны: 2-25-39, МТС: 7118496, 3054034, ВЕЛКОМ: 3454034.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

7 –13 лютага 2011 г.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтам да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 7 лютага



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 22.45** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**06.45** Nota Bene.
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** «В мире моторов».
**09.10** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «В моей семье - близнецы».
**10.10** Здоровье.
**10.35** Культурные люди.
**11.05** Криминальная мелодрама **«Затмение»**
**12.10** Трагикомедия **«Небеса обетованные»**
**14.30** Док.фильм «Уникальный памятникчеловеческой веры»
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30** Сериал **«Маршрут милосердия»**
**17.20** Криминальн.мелодрама **«Затмение»**
**18.25** Информационная программа «Окно в Европу».
**18.50**, 00.40 «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена». Программа о спорте.
**19.55** Ответный ход.
**21.00** «Панорама».
**21.45** Детективный сериал **«Обмани меня»** (США).
**22.55** Боевик **«Руслан»** (США-Канада).
**00.45** День спорта.



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Моя жена меня приворожила»**.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Смак».
**11.50 «Папа на все руки»**.
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать» с Михаилом Ширвиндтом.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**.
**17.05 «Слово женщине»**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет».
«Необъявленная война 21-го. Мятежный атаман».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.05** «Голоса». Заключит.серия.
**23.05** Наши новости.
**23.20** Новости спорта.
**23.25** «Ролан Быков. «Я вас, дураков, не брошу…».
**00.25 «Иван Подушкин. Джентльмен сыска»**. Многосерийный фильм.
**01.15-01.35** Ночные новости.



**06.35 «Универ»**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05** Детективный сериал **«Чисто английские убийства»**
**08.55 «Ты моя жизнь»**
**10.00 «Малыш и Богис»** (США).
**11.55** Пра мастацтва.
**12.25** Школа ремонта.
**13.20 «Земля света»**
**14.15** Сериал **«Сила притяжения»**
**15.10** Мультсериал **«Семейка пиратов»**
**15.35** Внеклассный час.
**15.50** Телебарометр.
**16.05** Детективный сериал **«Налетчики»** (Австралия).
**16.55«Чисто английские убийства»**
**18.00 «Ты моя жизнь»**
**19.05 «Дон Сезар де Базан»**. Музыкальная комедия (СССР). 1-я серия.
**20.30** Калыханка.
**20.45** Телебарометр.
**20.50** Белорусское времечко.
**21.50 «Интерны»**
**22.25 «Универ»**
**23.00** Овертайм.
**23.30** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига.
**00.20 «Налетчики»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошегонастроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошегонастроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Держи меня крепче». Теленовелла.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом «Секретно»: «Ковчег. Страсти по Ною».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Влада против группы «ЖНЮВ».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** СТВ представляет: «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Взрослые игры»**. Сериал. Заключительная серия.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35** «Кинопонедельник»: Алиса Гребенщикова, Игорь Бочкин и Анар Полунов в фильме **«ЕГОРИНО ГОРЕ»**. Россия, 2008г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«ДУРАКОВ НЕТ»**.



**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Прэс-экспрэс
**07:45** Эксперт
**08:10** ПраСвет
**08:35** Прыватная калекцыя
**09:05** Дакументальная гадзіна: «Чацвёртая сусветная вайна», дак. фільм, рэж. Рык Роўлі (Rick Rowley), 2003 г., ЗША
**10:20 «Сонечная дзяржава»**
**12:00** Аб'ектыў
**12:05** Прэс-экспрэс
**12:15** Эксперт
**12:40** ПраСвет
**13:05** Басанож па свеце
**13:30** Прыватная калекцыя
**14:05** Дакументальная гадзіна: «Чацвёртая сусветная вайна»,
**15:20 «Сонечная дзяржава»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Мой родны горад»** 29 серыя
**17:30 «Час гонару»**
**18:20** Прэс-экспрэс
**18:40** Госць «Белсату»
**18:55**«Еўрапейскі баль»,
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:55** Еўропа сёння
**20:20** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Барбара Радзівіл і Жыгімонт Аўгуст»
**20:35** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Валянцін Тарас», дак. фільм, 2007 г., Беларусь
**21:00** Аб'ектыў
**21:20** Рэмарка
**21:45** Фільматэка майстроў: **«Сонечная дзяржава»**, маст. Фільм
**23:20** Аб'ектыў
**23:40** Гарачы каментар

